Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 190.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 18 лістапада 1998 г. № 124 (516) Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Трагедыя ў метро

**Пазаўчора ўвечары на станцыі метро «Маскоўская» Мінскага метрапалітэна пад коламі цягніка загінуў чалавек.**

Трагедыя адбылася каля 21.00. Па словах відавочцаў, мужчына сам кінуўся пад цягнік. Пасля здарэння рух на гэтай лініі быў прыпынены прыкладна на паўгадзіны.

Па нумары тэлефона, што быў знойдзены ў кішэні загінулага, удалося выйсці на яго знаёмую, якая паведаміла, што апошнім часам мужчына знаходзіўся ў прыгнечаным стане і выказваў намеры звесці рахункі з жыццём. Улічваючы гэтую акалічнасць, а таксама сведчанні шматлікіх відавочцаў, крымінальнай справы па гэтым здарэнні праваахоўныя органы не заводзілі.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН начальнік аддзела ўнутраных справаў метрапалітэна Іван Мікуліч адзначыў, што падобных выпадкаў у Мінскім метро не было ўжо паўтара года.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Назіраў? Пад суд!

### *Арыштаваны назіральнік праваабарончай арганізацыі «Вясна-96»*

**15 сутак арышту атрымаў назіральнік «Вясны-96» Вадзім Канапацкі за ўдзел у мітынгу і шэсці рабочых 5 лістапада.**

Працэс над 24-гадовым Вадзімам Канапацкім цягнуўся больш дзвюх гадзінаў. Суддзя Партызанскага суда Мінска Мікалай Трубнікаў быццам бы прыклаў усе намаганні, каб высветліць ролю Канапацкага ў падзеях. Спачатку ён уважліва выслухаў паказанні сведкаў-міліцыянтаў, якія сцвярджалі, што Вадзім выкрыкваў палітычныя лозунгі. Потым з гэткай жа зацікаўленасцю азнаёміўся з меркаваннем удзельнікаў шэсця, якія сведчылі на карысць Канапацкага — маўклівага назіральніка за шэсцем рабочых. Толькі яшчэ праз гадзіну суддзя абвясціў свой прысуд. Прычым адбылося гэта ў адсутнасці журналістаў і прадстаўнікоў грамадскасці — такія цяпер парадкі ў Партызанскім судзе Мінска: на час абедзеннага перапынку ўсіх з суда выганяюць і чытаюць прысуды сам-насам з абвінавачаным.

15 дзён арышту Канапацкаму — ужо трэці «турэмны» прысуд удзельнікам акцыі рабочых. Раней 3 дні арышту атрымаў рабочы МАЗа Мікалай Раманаў і 6 дзён — будаўнік Сяржук Мацкойць. Усіх іх таксама асудзіў суддзя Мікалай Трубнікаў. У другой палове ўчарашняга дня ён жа павінен быў разглядаць справы актывіста БНФ Вячаслава Сіўчыка і рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча. (Вынікі гэтых паседжанняў станучь вядомыя, калі нумар газеты ўжо будзе здадзены ў друк.)

**Алег ГРУДЗІЛОВІЧ**

# У краму – толькі з пашпартам



*Работніцы беларускіх масласырзаводаў сваю працу робяць старанна. Але ў крамах прадуктаў няма, замест тавараў людзям прапануюць талоны і спісы.*

**Сістэма адміністратыўнага размеркавання прадуктаў пачала набываць у некаторых месцах Беларусі скрайнія формы. Так, у Полацку і Наваполацку гарадскія ўлады прынялі рашэнне: некаторыя дэфіцытныя прадукты будуць прадаваць па спецыяльных спісах.**

Усе жыхары гэтых гарадоў цяпер прымацаваныя да пасобных крамаў, дзе, прад'явіўшы пашпарт з адпаведнай прапіскай і пакінуўшы свой аўтограф у спецыяльнай кнізе, чалавек раз у месяц можа набыць 200 г. масла і паўкіло (магчыма, і больш, але гарантуюць улады менавіта паўкіло!) цукру. На іншыя дэфіцытныя прадукты (напрыклад, яйкі) абмежаванне пакуль не распаўсюджваецца, іх у крамах проста няма.

Новаўвядзенне полацка-наваполацкіх вертыкальшчыкаў вельмі нагадвае перыяд канца 80-х — пачатку 90-х гадоў, калі грамадзяне Беларусі хадзілі па прадукты і іншыя неабходныя тавары з пашпартам і толькі ў «свае» крамы. Тая размеркавальная сістэма сканала разам з Савецкім Саюзам, але, як высветлілася, не назаўсёды, і цяпер паспяхова адроджаная на тэрыторыі двух асобна ўзятых беларускіх гарадоў.

Як нам паведамілі ў Полацкім гарвыканкаме, продаж прадуктаў па спісах з'яўляецца «вымушаным крокам» — дзеля таго, каб забяспечыць людзей неабходнымі таварамі, няхай сабе і ў абмежаванай колькасці. Праўда, высветліць, ці хапае на ўсіх таго масла і цукру, нам не ўдалося, але мясцовыя чыноўнікі сцвярджаюць, што «на складах прадукты ёсць». А продаж па спісах уведзены, па іхніх словах, яшчэ і таму, каб спыніць вываз «стратэгічнага харчавання» за мяжу і не дапусціць спекуляцыі маслам і цукрам.

### Талоны на цукар і масла

У Астраўцы, раённым цэнтры Гродзенскай вобласці, жыхарам раздалі прадуктовыя талоны — кавалачкі паперы з машынапісным тэкстам і выканкамаўскай пячаткай. Такім чынам мясцовыя ўлады вызначылі ліміт — 1 кг цукру, 300 грамаў масла на чалавека ў месяц.

У іншых гарадах вобласці таксама збіраюцца вялікія чэргі па цукар, якога ў пастаянным продажы няма. «Простыя людзі», паводле сваёй савецкай псіхалогіі, гавораць, што лепш бы паўсюль зрабілі талонную сістэму — абы гарантавана купіць свой кілаграм цукру. Нічога дзіўнага: людзі стаміліся ад нішчымніцы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**
**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Сяргей Лінг абараняе дысертацыю

### *Ён хоча стаць кандыдатам біялагічных навук, а навуковую працу прысвяціў ячменю*

**Учора ў інстытуце эксперыментальнай батанікі абараняў дысертацыю 39-гадовы сын прэм'ер-міністра Сяргей Лінг.**

Сяргей скончыў Беларускую сельгасакадэмію па спецыяльнасці «вучоны-аграном», працаваў на камсамольскай пасадзе. З мінулага года ён уладкаваўся ў міністэрства знешнеэканамічных сувязяў намеснікам начальніка аддзела краінаў Еўропы і СНД. А 22 чэрвеня яго прызначылі першым сакратаром беларускай амбасады ў Літве, якую неўзабаве ўзначаліць былы віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун.

Характарыстыку ў Савет па абароне дысертацыяў падпісаў намеснік міністра знешнеэканамічных сувязяў Валерый Садоха. У ёй гаворыцца, што на працы ў МЗЭС С.Лінг *«займаўся пашырэннем знешнеэканамічных сувязяў з краінамі еўрапейскага рэгіёна і СНД, а таксама актыўна стымуляваў развіццё беларускага экспарту»*. Відаць, гэтая дзейнасць не прынесла вялікага плёну, і калі беларускі экспарт пайшоў на спад, то С.Лінг-малодшы вырашыў паспрабаваць сябе на навуковай глебе.

У заслугу Сяргею Лінгу паставілі і тое, што ён удзельнічаў у *«падрыхтоўцы і арганізацыі візіту прэзідэнта Лукашэнкі ў Югаславію»*, хоць да ячменю гэта не мае дачынення. Намеснік міністра лічыць, што С.Лінг *«рацыянальна плануе свой рабочы час і правільна выбірае прыярытэты»*.

Вось з такім багажом першы сакратар пасольства ў Літве будзе займацца праблемамі расліназодства. Усе папярэднія экзамены кандыдацкага мінімуму, у тым ліку па англійскай мове, ён здаў на «добра».

Пакуль вярстаўся нумар, у зале інстытута эксперыментальнай батанікі працягвалася навуковая прэм'ера сына прэм'ер-міністра. Як нам паведамілі, на дысертацыю С.Лінга-малодшага былі атрыманыя толькі станоўчыя водгукі, таму *«ў выніках тайнага галасаванне членаў савета можна не сумнявацца»*. Гэтаксама можна ўпэўнена прагназаваць, што Вышэйшы атэстацыйны камітэт пацвердзіць рашэнне вучонага савета і Сяргей Лінг атрымае ступень кандыдата біялагічных навук.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



***На здымку — заняткі ў адной з вясковых школаў Мінскай вобласці, у класе толькі тры вучні. Як сведчыць статыстыка, дзетак у вёсках з кожным годам менее, і невядома, ці будзе каму праз некаторы час ісці на канікулы...***

## Школа з 500-гадовым стажам

**У суботу, 21 лістапада, сярэдняя школа ў мястэчку Відзы Браслаўскага раёна святкуе 500-годдзе.**

Як нам распавёў настаўнік Леанід Дзікцяроў, у 1498 годзе пры Відзаўскім касцёле была заснаваная парафіяльная школа, у якой дзяцей вучылі чытанню і пісьму. (Пра гэта згадваў у сваіх даследаваннях вядомы польскі гісторык Ежы Ахманьскі.) Юбілей будзе адзначацца ў мясцовым Доме культуры, дзе пройдзе святочнае паседжанне, на якое збяруцца прадстаўнікі ўлады, госці з усёй краіны і былыя выпускнікі школы.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Канікулы будуць даўжэйшыя

**Міністэрства адукацыі памяняла тэрміны школьных зімовых канікулаў.**

Сёлета яны пачнуцца 25 снежня — на каталіцкае Божае Нараджэнне і скончацца 7 студзеня, на праваслаўнае Раство Хрыстова. Нагадаем, што ў мінулыя гады школьныя вакацыі пачыналіся 31 снежня пад Новы год і цягнуліся літаральна тыдзень. Як нам паведамілі ў міністэрстве адукацыі, перанос канікулаў выкліканы аб'ектыўнымі прычынамі: у калядна-перадднавагоднія дні вучні ўсё роўна хадзілі ў школу кепска.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Беларускі пасол вернецца з ордэнам

**Скончыўся пяцігадовы тэрмін працы беларускага амбасадара ў Літве Яўгена Вайтовіча.**

Адна з апошніх сустрэчаў амбасадара адбылася са спікерам літоўскага Сейма Вітаўтасам Ландсбергісам. Падчас сустрэчы Яўген Вайтовіч паведаміў, што ў хуткім часе Беларусь падпіша пагадненне з Літвой аб рэадмісіі: парушальнікаў беларуска-літоўскай мяжы (незалежна ад іх грамадзянства) з беларускага боку будуць вяртаць Беларусі, а парушальнікаў з літоўскага боку — Літве.

Па словах амбасадара, якія цытуе агенцтва ELTA, *«Беларусь нават болей зацікаўленая ў гэтай дамове, чым Літва»*. Дарэчы, паведаміў Я.Вайтовіч, у Беларусі сёння знаходзяцца дзесяткі тысяч нелегальных мігрантаў, і ўсе яны прыехалі з расійскіх «гарачых кропак».

Яўген Вайтовіч паведаміў, што пасля падпісання дамовы аб рэадмісіі Беларусь зоймецца дэмаркацыяй мяжы з Літвой — у беларускі бюджэт на 1999 год закладзеныя выдаткі на дакладнае вызначэнне і разметку беларуска-літоўскай мяжы.

Вітаўтас Ландсбергіс зазначыў, што на працягу апошніх гадоў беларуска-літоўскія адносіны развіваліся вельмі паспяхова. *«Традыцыйна мы падтрымліваем дэмакратычныя сілы ў вашай краіне»*, — заявіў ён. Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус ацаніў вынікі працы беларускага амбасадара — ён узнагародзіў Яўгена Вайтовіча ордэнам вялікага князя літоўскага Гедымінаса II ступені.

Новым амбасадарам Беларусі ў Літве прызначаны былы віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Уладзімір Гаркун. Як нам паведамілі ў міністэрстве замежных справаў, У.Гаркун пакуль яшчэ не прыступіў да выканання сваіх абавязкаў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Дэніэл Спекхард: Беларусь мне нагадвае радзіму

**МІНУЛА** амаль пяць месяцаў, як амбасадары ўсіх буйных заходніх краінаў пасля дыпламатычнага скандалу вакол пасёлка Дразды былі вымушаныя пакінуць Мінск.



Беларускія ўлады не раз спрабавалі прадставіць гэты міжнародны скандал як звычайную «бытавую праблему». Апошнім часам афіцыйныя беларускія асобы нават гавораць, што канфлікт вырашаны, і запрашаюць паслоў вярнуцца ў Беларусь. Але дыпламаты пакуль вяртацца не збіраюцца. Днямі **пасол ЗША ў нашай краіне Дэніэл Спекхард** даў інтэрв'ю радыё «Свабода», у якім ён выказаў сваё бачанне прычынаў дыпламатычнага канфлікту.

Сп.Спекхард лічыць, што Беларусь пакуль яшчэ знаходзіцца *«ў працэсе вывучэння і разумення сваіх міжнародных абавязкаў, якія краіна ўзяла на сябе пасля атрымання незалежнасці... У Беларусі раней фактычна не было вопыту выканання міжнародных пагадненняў, паколькі дзяржаўны лад у вашай краіне быў адміністратыўна-камандным»*. На думку Дэніэла Спекхарда, рашэнні, прынятыя на нацыянальным узроўні, супярэчаць міжнароднаму заканадаўству, і ў гэтым галоўная прычына канфлікту.

*«Безумоўна, праблему трэба вырашаць шляхам перамоваў з беларускім кіраўніцтвам»*, — сказаў пасол ЗША. Германія, Францыя і іншыя заходнія дзяржавы праводзяць такія перамовы з афіцыйным Мінскам, але ўсе гэтыя краіны настойваюць на выкананні прынцыпаў Венскай канвенцыі, і толькі такое рашэнне можа задаволіць усіх. Сам сп.Спекхард пастаянна праводзіць кансультацыі са сваімі еўрапейскімі калегамі адносна перамоваў з Беларуссю.

Заходнія дыпламаты працягваюць весці дыялог з беларускім урадам і лічаць, што драздоўскі канфлікт зусім не з'яўляецца «жыллёва-камунальнай спрэчкай». Амбасадараў больш хвалюе пытанне, ці магчыма аднавіць з беларускім бокам кантакты на прынцыпах, паводле якіх ажыццяўляюцца цывілізаваныя дыпламатычныя адносіны, а прадастаўленне паслам апартаментаў — гэта ўжо справа не першай важнасці.

Тым не менш Дэніэл Спекхард, нават знаходзячыся ў Вашынгтоне, працягвае выконваць свае абавязкі пасла ў Беларусі. Амерыканскі амбасадар некалькі разоў на тыдзень гутарыць з супрацоўнікамі дыпламатычнага прадстаўніцтва ЗША ў Мінску і вельмі ўважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі. *«Я па-ранейшаму заангажаваны ў штодзённы працэс развіцця двухбаковых дачыненняў паміж нашымі краінамі»*, — сказаў Дэніэл Спекхард. Пасол ЗША прызнаўся, што яго сэрца (як і афіцыйная пасада) па-ранейшаму ў Беларусі — краіне, якая сваімі краявідамі нагадвае яму родныя мясціны ў штаце Віскансін.

Сп.Спекхард захоўвае надзею на вяртанне ў Беларусь, але дзеля гэтага, па словах пасла, *«мы павінны пераадолець складанасці ў дачыненнях паміж нашымі краінамі»*.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Урад ідзе ў грыбы

**Беларускі ўрад паклаў вока на такі выгадны бізнес, як гандаль грыбамі, ягадамі ды іншымі «дарамі лесу».**

Спецыяльнай пастановай Савет міністраў загадаў лічыць гэта дзейнасцю, для якой патрэбна ліцэнзія. Памер збору, якім трэба будзе аплаціць ліцэнзію, загадана вызначыць аблвыканкамам. Тэрмін ім дадзены кароткі — усяго месяц. Хутчэй за ўсё ўрад так спяшаецца, бо хутка ў людзей папросту не застанецца лішніх запасаў грыбоў, ягад ды лекавых раслінаў. Цяпер іх актыўна скупляюць прадпрымальнікі, плацячы сялянам нашмат большыя грошы, чым дзяржаўныя нарыхтоўшчыкі.

Падатковаму камітэту і міністэрству ўнутраных справаў загадана «аказваць садзейнічанне». Відаць, хутка пабач з кожнай вёскай установяць пункты кантролю за вывазам грыбоў і ягад.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Міністэрства шукае па фондах і камітэтах

**Міністэрства юстыцыі пільна зацікавілася дзейнасцю некаторых грамадскіх арганізацыяў.**

Пазаўчора ў офісах Беларускага Хельсінкскага камітэта і Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі пачалі працаваць міністэрскія чыноўнікі, якія правяралі дзейнасць гэтых арганізацыяў. Як нам стала вядома, у ходзе праверкі ніякіх парушэнняў заканадаўства прадстаўнікі міністэрства юстыцыі пакуль не выявілі.

Старшыня Фонду Л.Сапегі Міраслаў Кобаса лічыць, што гэта была звычайная планавая праверка, звязаная, хутчэй за ўсё, з маючай адбыцца перарэгістрацыяй грамадскіх арганізацыяў. Аднак сп.Кобаса не выключае, што ў праверальшчыкаў маглі быць і нейкія іншыя мэты. А вось каментатар прадстаўнікоў Хельсінкскага камітэта былі менш аптымістычныя. Гэта і не дзіўна, бо, акрамя мінюста, дзейнасць БХК цяпер правярае і пракуратура.

Нагадаем, што нядаўна група пільных таварышаў-ветэранаў звярнулася з лістом да генпракурора з просьбай прыцягнуць да крымінальнай адказнасці некаторых прадстаўнікоў Хельсінкскага камітэта — нібыта за абразу гонару і годнасці прэзідэнта. Падставай для гэтага палітычнага даносу сталі матэрыялы праведзенай БХК міжнароднай канферэнцыі на тэму палітычных рэпрэсіяў у Беларусі. Таму, на думку супрацоўніцы Хельсінкскага камітэта, праверка з міністэрства юстыцыі напраму звязаная з гэтым пракурорскім расследаваннем.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Нацыянальны банк

**ПРАБЛЕМА**, якая цікавіць практычна ўсіх, — гэта грошы. Апошнім часам не раз даводзіцца чуць ад людзей: «Такі тоўсты пачак рублёў у кішэні, а нічога за іх не набудзеш!».

Сапраўды, на сённяшні дзень самая «дарагая» беларуская купюра — сто тысяч рублёў, што крыху больш за паўдолара па курсе «чорнага рынку». Яшчэ больш распаўсюджаныя банкноты — 20 і 50 тысяч рублёў. Натуральна, што гэта вельмі нязручна: пакупнікам — цягаць за сабой мяхі «фанцікаў», касірам — пералічваць іх і здаваць у банк.



З пытання пра тое, калі будуць уведзеныя беларускія банкноты з большымі наміналамі, і пачалася размова нашага карэспандэнта з Уладзімірам СОКАЛАМ, дырэктарам дэпартамента па працы з каштоўнасцямі Нацыянальнага банка Беларусі.

— Вы хочаце даведацца, калі будзе ўведзены новы намінал? Але такія рэчы ніколі не паведамляюцца загадзя. Распрацоўваюцца новыя банкноты, але канкрэтныя тэрміны ніхто вам вось так не скажа.

Кожны банкнот уводзіцца ў абарачэнне па рашэнні савета дырэктараў Нацбанка Беларусі. Пакуль што Нацбанк вывучае сітуацыю на рынку, робіць неабходныя падлікі. Як вы разумееце, нельга раптам надрукаваць партыю новых банкнотаў і адразу ўсё запусціць у абарот.

Сам працэс распрацоўкі банкнотаў займае вельмі шмат часу. Звычайна тэрмін падрыхтоўкі да выхаду купюры ў свет — ад 6 да 9 месяцаў. А Германія, напрыклад, распрацоўвала новыя банкноты на працягу 6 гадоў.

**— Дзе «нараджаюцца» беларускія грошы?**

— Малюнкі распрацоўваюцца ў нас, у дэпартаменце па працы з каштоўнасцямі. Наш мастак робіць эскіз, іншыя спецыялісты займаюцца нанясеннем сродкаў абароны ад падробкі, падбіраюць паперу. Так што стварэнне банкнотаў — калектыўная праца. Але галоўнае ўсё ж — гэта сродкі абароны.

**— Беларускія грошы друкуюцца ў Беларусі?**

— Не, у Беларусі няма вытворчасці банкнотаў, і развіваць яе неэфектыўна.

**— А дзе ж?**

— Я не хацеў бы рабіць рэкламу вытворцу. Мы гэтага не афішуем. *(Па інфармацыі, атрыманай з іншых крыніцаў, грошы для Беларусі вырабляе Расія. — Р.П.)* Рэкламу звычайна робіць сам вытворца: я выкрабляю грошы для такіх і такіх дзяржаваў — гэта прэстыжна.

Калі Беларусь збіралася запускаць у абарачэнне ўласныя грошы, мы наладзілі тэндэр і выбралі аптымальнага партнёра. Улічылі і ўмовы дастаўкі, і тэрмін вырабу, але галоўнае — кошт.

Для Беларусі вельмі дорага самім рабіць банкноты. Усе дзяржавы вакол нас маюць банкнотныя фабрыкі, таму ў Беларускага прадпрыемства не будзе загрузкі, яно будзе прастойваць. Танней друкаваць за мяжой. Вытворчасць грошай, аналагічных беларускім, каштуе ад 2 да 8 амерыканскіх цэнтаў. Выраб долараў ЗША, напрыклад, каштуе ад 4 да 8 цэнтаў у залежнасці ад наміналу. Так што нашыя грошы абыходзяцца танней.

**— Скажыце, калі ласка, навошта было запускаць у абарот тысячу і пяць тысяч новага ўзору? Ці не лепей было адразу надрукаваць пяцьсот тысяч або нават мільён?**

— Не. Дробныя грошы таксама патрэбныя. Улічыце, што папяровыя грошы жывуць нядоўга, іх увесь час трэба адноўляць. Старыя, пашкоджаныя грошы выкарыстоўваць немагчыма.

Апроч таго, тысяча і пяць тысяч новага ўзору могуць «чытацца» лічыльнікамі банкнотаў. Мы нядаўна закупілі такія машыны. Новы лічыльнік самастойна можа сартыраваць банкноты, правяраць іх сапраўднасць і нават знішчаць кепскія. Банкноты старога ўзору машына «чытаць» не можа.

Дарэчы, у новай мадыфікацыі банкнотаў ужо няма металічнай ніці, і гэта дазволіла практычна ў два разы знізіць кошт вытворчасці. Для такіх маленькіх наміналаў ніць — вялікая раскоша. Беларускія грошы і без таго добра абароненыя.

**— Ці Нацбанк не плануе выводзіць з абароту 100, 200, 500 рублёў? На гэтыя грошы сёння ненабудзеш нічога.**

— Пакуль ёсць яшчэ людзі, для якіх розніца ў 200-500 рублёў — даволі адчувальная. Таму пакуль што мы гэтага рабіць не будзем. Але мы ўжо працуем у гэтым накірунку з міністэрствам эканомікі. Калі будзе павялічваца мінімальная заработная плата, з ростам цэнаў, думаю, у наступным годзе гэтае пытанне будзе вырашанае. Відаць, некаторыя банкноты будуць выведзеныя з абароту. Панікі ў насельніцтва не павінна быць — банкі будуць яшчэ доўга прымаць гэтыя грошы.




*У будынку Нацыянальнага банка, што на праспекце Ф.Скарыны ў Мінску, пра грашовую палітыку думаюць з раніцы да вечара.*

**— А які лёс тых талераў, што нібыта былі надрукаваныя яшчэ да «зайчыкаў», але так і не выйшлі ў абарачэнне? Ці былі яны, што з імі здарылася?**

— Давайце не будзем гэтую тэму абмяркоўваць. Калі нават нешта і было, гэта ўжо закрытае пытанне. Афіцыйна першыя беларускія грошы — гэта «вавёркі», «зайчыкі»... Таму, калі нават нешта і было, — гэта не тэма, каб абмяркоўваць яе у друку.

**— Наколькі я ведаю, Беларусь выпускае і манеты?**

— Так, Беларусь выпускае манеты з 1996 года. Ужо выпушчана 10 штук. Выпускаюцца медна-нікелевыя, срэбныя і залатыя манеты. Савет дырэктараў зацвердзіў перспектыўны манетны план. У адпаведнасці з планам, медна-нікелевыя манеты будуць выпускацца наміналам адзін рубель, срэбныя — 20 рублёў, залатыя — 50 рублёў. Усе гэтыя манеты — законны плацежны сродак на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**— Але чаму такі маленькі намінал? І навошта ён? Ніхто ж не панясе залатую манету у краму, калі яна намінальна эквівалентная палове сторублёўкі!**

— А гэтага і не патрабуецца. Калі манета не мае ха-

# Украина торгует грязным воздухом

*Такой вариант всерьез обсуждается в правительстве*

Мир пока что не может прийти к общему соглашению по проблеме глобального потепления. Однако прогресс все же есть.

На прошедшем на прошлой неделе саммите по проблемам климата, который состоялся в Буэнос-Айресе, США наконец-то поставили подпись под Киотским соглашением, которое предполагает, что все страны мира до 2112 года должны снизить как минимум на 5% выбросы в атмосферу парниковых газов. При этом Европейский Союз обязуется дать уменьшение на 8%, Соединенные Штаты — на 7%, Япония — на 6%.

Сегодня уже никто не сомневается в том, что выброс парниковых газов, и в первую очередь двуокиси углерода, вызывает глобальное потепление на планете. Ученые уверены, что ужасные засухи, год за годом поражающие саванны в Африке, а также чрезвычайно сильные ураганы в Центральной Америке — следствие бездумной деятельности людей. Только в этом месяце тропический ураган унес жизни более 10 тысяч людей в Гондурасе и Никарагуа. А беспрецедентный за всю историю паводок в Закарпатье, фактически погубивший сотни гектаров ценнейших плодородных земель, лишил многие семьи не только крова, но и надежд на будущее. И все это связано с изменением климата на планете. Чего удивляться: только в этом году уровень Мирового океана поднялся на 2 сантиметра, как сообщает *Associated Press*. Так что небольшое островное государство Тувалу в Тихом океане через десять-двадцать лет может повторить судьбу легендарной Атлантиды.




Рецепт борьбы с этой напастью одинаково прост и сложен — нужно уменьшить загрязнение атмосферы. В принципе с этим согласны все государства в мире. Однако если развитые державы, к которым теперь присоединились и Штаты, уже берут на себя весьма конкретные обязательства, то развивающиеся страны — и в первую очередь Индия и Китай — считают, что распространение этих ограничений на них «законсервирует» неравноправие в экономическом развитии разных регионов мира.

Бывшие советские страны в принципе также должны сократить выброс парниковых газов. Однако здесь есть один нюанс — сокращение на 5% будет отсчитываться от уровня 1990 года. Учитывая экономический кризис и сворачивание производства в постсоветских странах, особенно в России, сделать это будет в принципе несложно. Впрочем, учитывая, что официальный Минск с устойчивым упорством на крайне устаревшем оборудовании стремиться достичь промышленного уровня 1990 года, скорее всего именно Беларусь окажется в «злостных нарушителях».

А Киев подходит к проблеме с традиционным украинским прагматизмом. Поскольку США и Япония явно не впишутся в установленные международным сообществом рамки, то им придется покупать «разрешения на выброс» у третьих стран. Так что Украина вполне может завести в доходной части государственного бюджета графу «торговля грязным воздухом».

*Подготовил* **Михаил ГРИГОРЬЕВ**

*После трагедии*

# «Эстония» вновь не дает покоя

*Правительство Эстонии приняло решение пригласить министров транспорта Эстонии, Швеции и Финляндии для обсуждения вопроса о возможном подъеме трагически затонувшего во время плавания парома «Эстония»*

Специально созданная при правительстве Швеции аналитическая группа предложила кабинетам министров трех стран отказаться от принятого в 1995 году межправительственного соглашения, в котором место гибели парома объявлялось местом захоронения. Тогда предлагалось покрыть корпус парома бетонным саркофагом и запретить тревожить и поднимать тела погибших, а также проводить в этом месте подводные работы. В том же году в Эстонии на основе этого соглашения был принят закон, объявляющий это место могилой.

Тем не менее, исходя из требований родственников погибших граждан Швеции, группа рекомендовала поднять с помощью водолазов тела утонувших и похоронить их на суше по месту прежнего жительства. Ссылаясь на мнение судебно-медицинской экспертизы Швеции, группа считает, что за истекшие четыре года трупы могли сохраниться в холодной балтийской воде и идентифицировать погибших можно по зубным картам. Правительство Швеции предложило кабинетам министров Финляндии и Эстонии обсудить это предложение и дать ответ до 10 января.

По сообщению Финского телеграфного бюро, правительство этой страны отвергло рекомендацию аналитической группы и решило придерживаться ранее заключенного межправительственного соглашения о запрете подъема тел.

Есть еще один нюанс — если тела шведов и финнов можно будет действительно опознать по зубам, то в Эстонии не было практики составления зубных карт для возможной последующей идентификации. Определить, кто есть кто, с полной уверенностью невозможно. И каково будет родственникам ухаживать за могилой, не будучи полностью уверенными, что в ней покоится именно их сын, дочь или мать?

Паром «Эстония» затонул в штормовую ночь с 27 на 28 сентября 1994 года на полпути из Таллинна в Стокгольм. В этой самой крупной катастрофе на Балтике погибли 852 человека, из которых более 700 ушли на дно вместе с судном и предположительно все еще находятся внутри него. Большинство погибших были граждане Эстонии, Швеции и Финляндии.

**Сергей СМИРНОВ**

## США уничтожают авиацию Украины

Позавчера на аэродроме в Прилуках под Черниговом был уничтожен первый из 44 стратегических бомбардировщиков Украины, доставшихся ей после распада СССР. Уничтожают тяжелые бомбардировщики на деньги США и под контролем американской фирмы. Металлолом, оставшийся после уничтожения, остается в собственности Украинского государства.

## Алло! Спецслужбы внимательно слушают!

Служба безопасности Украины внедряет «телефон доверия контрразведки». Этот телефон будет предназначен для конфиденциальных обращений граждан по вопросам о совершении особо опасных преступлений против государства, в частности — государственной измены и шпионажа. Отныне квалифицированные сотрудники украинской контрразведки в Киеве круглосуточно будут ожидать выхода на связь лиц, по каким-либо причинам вставших на путь нарушения закона, но не желающих продолжать противоправную деятельность, и сообщений о совершении указанных особо опасных преступлений против государства или подготовке к ним. Позвонившим по «телефону доверия контрразведки» гарантируется неразглашение содержания и самого факта разговора.

**М.Г.**

# прадае грошы

джэння як законная плацежная адзінка, дык гэта ўжо не манета, а нешта іншае. Манеты, што выпускаюцца Нацбанкам Беларусі, калекцыйныя, і намінал у іх умоўны. Асноўныя каштоўнасці манеты — гэта метал, якасць чаканкі і наклад манеты: чым меншы наклад, тым вышэй нумізматычная вартасць.

Наклады маленькія, і таму беларускія манеты рарытэтныя. Яны будуць карыстацца попытам за мяжой. Наклад медна-нікелевай манеты — каля 5 тысяч, срэбнай — да пяці тысяч, залатой — 500 экзэмпляраў.

**— Наклад спецыяльна робіцца такі маленькі, каб быў большы попыт?**

— Не толькі. Мы робім першыя крокі на нумізматычным рынку, рынак яшчэ не вывучаны, і таму не хочацца рабіць памылак. Напрыклад, наш сусед — Украіна — наштампавала вялікую колькасць манетаў, а цяпер не ведае, як іх прадаць. Прасцей, калі будзе пэўны калекцыйны «голад»: манеты будуць прадавацца, да іх будзе цікавасць. Мы не імкнемся выпускаць шмат манетаў: 4—5 у год, не болей.

**— Як можна набыць беларускія манеты?**

— У галоўных упраўленнях Нацбанка. Усе, хто хоча набыць манеты, можа прыйсці ў галоўнае ўпраўленне і купіць іх. Пакуль мы не робім вялікай рэкламы. Плануем у будучыні арганізоўваць падпіску — каб кожны калекцыянер мог набыць беларускія манеты. Срэбныя манеты каштуюць каля 17—18 долараў, медна-нікелевыя — каля трох.

У Беларусі няма манетнага двара, таму даводзіцца траціць валютныя сродкі на вытворчасць манет. Сёння мы прадаем манеты за рублі, але ў хуткім часе будзем прадавацца і за валюту.




*Так выглядае дваццацірублёвая срэбная манета з выявай гімнасткі.*

Манета — гэта твар дзяржавы, яна стварае папулярнасць Беларусі. Манеты мабільныя, яны рухаюцца па ўсім свеце, і нехта за мяжой пры дапамозе манеты можа даведацца, што існуе такая дзяржава — Беларусь.

**— Грошы нараджаюцца, жывуць і паміраюць... Што вы робіце з грашыма, што выйшлі з абароту?**

— Грошы мы знішчаем тут, у Беларусі. Увогуле, гэта вялікая праблема для кожнай дзяржавы. І кожная дзяржава вырашае гэтую праблему пасвойму.

У Германіі банкноты, што выйшлі з абарачэння, рэжуць на дробныя кавалачкі, пасля фармуюць у брыкеты — і прадаюць людзям на ацяпленне як паліва для печаў. У Вялікабрытаніі скарыстаныя банкноты звальваюцца ў старыя шахты, тое самае робілі і ў Расіі. У Польшчы грошы проста спальваюцца. Мы здрабняем банкноты і выкарыстоўваем у вытворчасці будматэрыялаў.

А вось цэлыя пачкі новенькіх «вавёрачак», «зайчыкаў» ды «мядзведзікаў», што не паспелі трапіць у абарачэнне, мы прадаем — як правіла, нумізматычным арганізацыям. З асобнымі калекцыянерамі мы не працуем.

Гэта вельмі зручны спосаб ліквідацыі — мы не знішчаем грошы, а зарабляем на іх. Дарэчы, гэта практыкуецца не толькі ў Беларусі. Сярод калекцыянераў банкнотаў існуе вялікі попыт на банкаўскія білеты, што не былі ў абарачэнні, у тым ліку і на беларускія.

**— Адно з «гарачых» пытанняў, што заўсёды хвалюе многіх: ці будзе дэнамінацыя?**

— З эканамічнага пункту гледжання праводзіць дэнамінацыю сёння не мае сэнсу. Дэнамінацыю можна праводзіць толькі ў перыяд фінансавай стабільнасці ў дзяржаве — каб была стабільная эканоміка, вельмі нізкія тэмпы інфляцыі. Інакш адкінутыя «нулі» хутка вернуцца.

Беларусь пакуль не гатовая да правядзення такога мерапрыемства. Вось і блізкі прыклад: Расія, бачыце, правяла дэнамінацыю, і некаторыя новыя манеты ўжо практычна непатрэбныя.

**— Апошняе пытанне: чым забяспечаны беларускі рубель? Золатам—брыльянтамі ці, напрыклад, лесам?**

— Беларускі рубель забяспечаны ўсім багаццем краіны. Гэта і золатавалютныя рэзервы, і лес — усё разам.

*Размаўляў* **Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Патруль охраняет могилы

**Администрация самого большого ростовского кладбища намерена построить сторожевую башню.**

Ростовское Северное кладбище — одно из самых больших в Европе (площадь свыше 200 гектаров). Администрация приняла решение построить 15-метровую сторожевую башню. По мнению начальства, иначе такую территорию трудно контролировать, тем более в последнее время здесь участились случаи вандализма и воровства.

*ИМА-пресс*

## Кто съест французское сало?

Европейская комиссия сообщила, что в ближайшее время 100 тысяч тонн продукции французских свиноводов поплывет кораблями в Россию. Помощь россиянам здесь явно не на первом месте, главное — наведение порядка на французском рынке мясопродуктов.

За последний месяц цена на свинину во Франции упала значительно ниже себестоимости. «Свиное лобби» проделало огромную работу и оказало давление на правительство, чтобы оно пролоббировало упомянутое решение в Брюсселе. 23 ноября министры сельского хозяйства ЕС примут решение, сколько именно тонн французского мяса и сала дополнительно направится в Россию.

А россияне пока демонстрируют готовность съесть все, что к ним приплывет либо приедет. В этом году в России собрали меньше 50 млн. тонн зерновых, что близко к критическому уровню обеспечения страны. А реальный импорт продовольствия в Россию резко сократился, так что французские скварки будут весьма кстати.

**Александр ПАЛИЙ**

# Осторожно: перед вами инструкция!

Иногда создается впечатление, что компании, изготавливающие товары для массового покупателя, считают своих клиентов если не полными дураками, то во всяком случае недоучками. Судите сами: британский журнал *New Scientist* опубликовал недавно своеобразную коллекцию присланных читателями цитат из инструкций к тем или иным товарам. Картина действительно получилась интересная.

На изготовленном в США зеркальце заднего вида для мотоциклов написано: *«Помните! Предметы, которые вы видите в зеркальце перед собой, на самом деле находятся позади вас!»*

Самое простое механическое противоугонное устройство типа «кочерга» (один конец закрепляется на руле, другой — на педали) снабжено неснимаемой этикеткой, на которой крупными буквами написано: *«Перед выездом, пожалуйста, снимите замок»*.

Надпись на упаковке швейцарских снотворных таблеток гласит: *«Внимание: это средство может вызвать сонливость»*. А инструкция к швейцарскому же фотоаппарату предостерегает: *«Это устройство правильно работает только при заряженной пленке»*.

Из инструкции к электроутюгу фирмы *Rowenta* (той самой, которая *«радость в вашем доме»*): *«Никогда не применяйте для глажения одежды прямо на теле»*.

Читатель журнала, проживающий в Швеции, — большой патриот и приобретает преимущественно отечественный товар. Шведские производители электрической пилы позаботились о нем и заблаговременно предупредили: *«Никогда не пытайтесь останавливать движущуюся цепь руками»*.

На пакетиках с жареным арахисом, которые любезная стюардесса с милой улыбкой раздавала пассажирам китайских авиалиний, на четырех языках написано: *«Способ употребления: разорвать пакетик, съесть орешки»*.

Инструкция к компьютеру весьма знаменитой марки, но азиатской сборки предостерегает: *«Если вы купили компьютер зимой, не открывайте коробку, пока она не примет комнатную температуру»*. Все бы ничего, но сама инструкция находится как раз внутри коробки.

На инструкции к японским электронным часам: *«Чтобы заменить элемент питания, нужно: 1) выньте старую батарейку; 2) вставьте новую батарейку»*.

Покупатель французского чайника фирмы *Moulinex* был явно застрахован от возможных ошибок, так как наклейка на аппарате предупреждала: *«Осторожно! После включения в сеть этот предмет нагревается!»*

А вот и совет хозяйкам. На пакетике сухого тертого чеснока предлагается рецепт: *«Для того, чтобы приготовить гренки с чесноком, возьмите чесночный порошок, немного масла, резаную петрушку, батон. Затем тщательно смешайте все компоненты, кроме батона...»*

Впрочем, кто-нибудь может возразить, что подобного рода курьезы случаются исключительно из-за трудностей перевода на иностранные языки и конфликта культур. Однако и в нашей «родной» жизни нередко наталкиваешься на подобные ситуации. «Инструкция по эксплуатации» (документ действительно назывался очень солидно) обыкновенной зубной щетки, купленной мною в минском универмаге и произведенной на белорусской фабрике, сообщала, что *«хранить щетку разрешается в футляре рабочей стороной вверх только в транспортном положении, так как в противном случае возможна утрата потребительских свойств»*. А на троллейбусе, в который я садился на остановке недалеко от своего дома, было просто и доходчиво написано большими красочными буквами: *«Ожидай общественный транспорт только на остановке!»* А я-то думал...

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Дождь заветных желаний

*«Звездный дождь» — метеорный поток Леониды — пролетел минувшей ночью над нашей планетой*

«Звездный дождь» наши читатели могли наблюдать в морозную ночь с 17 на 18 ноября. Из созвездия Льва летели тысячи ярких светящихся частиц, большинство из них пронеслось над планетой на расстоянии нескольких сотен километров. То, что с Земли выглядело как «звездопад», на самом деле было «хвостом» кометы Темпла-Таттла, пролетавшей над Землей в январе 1998 года. Эти «остатки» кометы являются потоком метеоров и представляют собой облака светящихся газов, внутри которых есть твердые тела (метеороиды).

Поскольку видимое направление движения метеорных потоков берет начало из созвездия Льва, то частицы носят название Леониды (от Лео — Лев). Реально же метеорные потоки движутся по эллиптической орбите, которая раз в несколько десятков лет "встречается" с орбитой Земли. Последний раз подобное происходило в 1966 году, следующего же «звездопада» астрономы ждут только через 100 лет.

Леониды не представляют никакой угрозы для землян: частицы очень маленькие и те, которые ближе всего подойдут к планете, дотла сгорят в плотных слоях ее атмосферы, издавая сияние. Так что те, кто не поленился посмотреть минувшей ночью на звездное небо и загадать много желаний, явно имеет шансы на их исполнение.

**Ванда ВАСИЛЕВСКАЯ**

# Мужские правила

Хотим мы того или нет, но жизнь, как любую другую игру, необходимо вести по определенным, нередко жестким, правилам. Установки и нормы «правильного» поведения внушаются нам с самого детства. Передаются из поколения в поколение, переходя в традиции.

Но мужские правила резко отличаются от женских. Более того, если женщина может легко отойти от "мешающей жить установки", то, согласно кодексу чести настоящего мужчины, отступиться от негласного закона означает признать себя побежденным. Поэтому проявлять фантазию и лавировать в океане межличностных отношений приходится чаще женщинам. А чтобы играть по мужским правилам, их нужно знать.

## Правило номер один

**Мужчина всегда демонстрирует свою силу как существенную составляющую мужественности.** Не обязательно быть сильным — главное уметь казаться таковым. Женщины часто боятся принять на себя ответственность, не заручившись одобрением со стороны. Для мужчины же возможная награда стоит того, чтобы идти на риск.

Одно из ярких проявлений силы — способность хладнокровно смотреть в лицо трудностям. Уныние и жалобы идут вразрез с правилом «стисни зубы и терпи», являясь проявлением бессилия. Поэтому очень часто женские слезы и сетования на тяжкую долю воспринимаются сильной половиной отрицательно. Но, с другой стороны, воспитание не позволяет «герою» отказать в помощи слабой женщине. Так что, милые дамы, имейте в виду: жалуясь, вы ставите окружающих вас мужчин в зависимое положение, что чаще всего приводит их в бешенство. Ведь, согласно мужской логике, гораздо целесообразнее спокойно сесть и подумать, как выйти из затруднительного положения, но уж никак не бежать по знакомым, дабы просто «выпустить пар» — поплакаться, получить моральную поддержку. Мужчина готов дать дельный, взвешенный совет, хотя женщине в подобной ситуации он, скорее всего, и не требуется.

Итак, настоящий мужчина всегда демонстрирует силу. Старается держать дела под контролем, ни от кого не зависеть. Не жалуется и никогда не показывает противнику своих слабых сторон.

## Правило номер два

**Мужчина знает все или почти все.** Скорее он рискнет совершить опасный промах, чем признается в своей некомпетентности. Понятий «не могу» или «не умею» для него не существует. Поэтому за помощью мужчина обращается лишь в крайних случаях, когда все возможности решить проблему самостоятельно уже исчерпаны.

Если ваш муж сбился с дороги, виноваты будут все вокруг: старая карта, новые названия улиц и, в конечном счете, вы. Но только не он.

Исторически сложилось так, что в понятие мужественности входят такие черты, как дерзость и бравада. Скромность, кротость и застенчивость — прерогатива женственности. Для того, чтобы выглядеть сильным, надо прежде всего казаться знающим. А в интересах дела не грех и прихвастнуть. Если мужчина ничем не выделяется, его просто не примут в компанию. Поэтому еще мальчишкой он научился выставлять напоказ и всячески приукрашивать свои достоинства. Скромен мужчина только в одном случае — когда его достижения столь велики, что не заметить их невозможно.

Итак, настоящий мужчина всегда знает, что предпринять в экстремальной ситуации. Обращается за помощью крайне редко. Рекламирует свои достижения, действительные и мнимые, и никогда не распространяется по поводу недостатков. «Маленькие преувеличения» во имя благих целей, разумеется, не относятся к числу его пороков.




*Говорят, что настоящую солидарность проявляют только мужчины. Неправда: именно дамы в форменных оранжевых жилетах помогают своей бронзовой подруге в Михайловском сквере Минска.*

## Правило номер три

**Мужчина доводит любое дело до конца.** Даже если результат уже потерял свою значимость, а игра перестала доставлять удовольствие.

В первую очередь это относится к рабочему времени. У мужчин сформированы определенные ролевые представления. Все они помнят, что отец приходил с работы поздно, да и герои фильмов, все как один, бьются над решением мировых проблем по ночам. В результате работа для многих мужчин становится символом исполненного долга, доказательством того, что они любят свою семью и готовы многим ради нее пожертвовать. Нет клейма страшнее, чем репутация неудачника, неспособного содержать свою семью — на том уровне достатка, который он сам определил.

Мужчины с детства привыкли к тому, что убирать и готовить в доме должен кто-то другой. Они не испытывают неудобства, питаясь в кафе и отдавая белье в прачечную. В основе мальчишеских игр часто лежит обмен или торг. Поэтому, став взрослыми, они также продолжают жить с мыслью о том, что за их услуги надо платить.

## Правило номер четыре

**Мужчина никогда не станет слишком переживать из-за игры.** Наоборот, он даже гордится тем, что неэмоционален и строго логичен.

Мальчики с детства учатся скрывать свои чувства. «Будь мужчиной!» не означает «будь взрослым», а «веди себя соответствующим образом». Поскольку эмоциональный опыт представителей сильной половины человечества довольно беден, нередко в момент всплеска чувств они теряют всякое соображение. Когда мужчина видит взволнованную или плачущую женщину, он делает вывод, что та не в состоянии правильно оценить ситуацию. А ведь это далеко не так. Поэтому, милые дамы, в отношениях с противоположным полом не всегда стоит показывать свои чрезмерные эмоции. Помните, что истолкованы они могут быть превратно.

## Правило номер пять

**Агрессивность — составная часть игры.** В понятии женщины "агрессивный" трактуется как «враждебный» или «вздорный», «задиристый». Для мужчины же это понятие гораздо шире — «целеустремленный», «полный сил», «смелый», «дерзкий».

Дамы, не ждите, чтобы вас позвали! Не подпирайте на работе стенку! Мужчина ждет от женщины инициативы. Это касается и бизнеса, и секса. Если вы заинтересованы в общении или контакте с мужчиной, скажите ему прямо. Ваш поступок будет воспринят нормально. Вас пугает возможный отказ? Но ничего не потеряно, даже если вам ответят «нет».

Настоящий мужчина не боится рисковать. Ведет себя агрессивно, чтобы его заметили. Во всем проявляет инициативу.

## Правило номер шесть

**Драка — обязательный атрибут игры.** Мужчины любят драки не менее сильно, чем женщины их ненавидят. Но ведь и на войне есть свой кодекс чести — мужской. Почему на дуэли противники расходятся на десять шагов, когда самый верный способ расправиться с врагом — выстрелить в спину без предупреждения? Поступи мужчина таким образом, он на всю жизнь будет заклеймен репутацией подлеца. В борьбе не выигрыш ценится больше, а честная победа — демонстрация своей силы и мастерства в рамках установленных правил.

Женщина часто проигрывает мужчине не только потому, что более пассивна или, наоборот, чересчур агрессивна (и первое, и второе воспринимается отрицательно). Ей, в силу психологических особенностей, гораздо труднее управлять собой. У каждой ситуации (интриги, игры) есть свое начало и, соответственно, финал. Важно вовремя понять, когда игра окончена.

Это не так трудно, если учитывать три момента: **1)** *вы ясно понимаете, что выиграть уже не можете;* **2)** *цена победы слишком высока* и **3)** *даже победив соперника, не старайтесь уничтожить его, остановитесь.* Дать возможность противнику сохранить свое лицо — очень важное мужское качество.

Умение проигрывать и выигрывать приходит намного легче, если вы относитесь к работе (к той или иной ситуации), как к игре. Результат сегодняшний не так уж важен — завтра обязательно будет другой. Если вы проиграли, отнеситесь к этому с юмором и поздравьте с победой противника. Не стоит плакать, жаловаться, дуться. После драки кулаками не машут.

**Владимир ВИХЛЯЕВ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1262 Нумар падпісаны ў друк 17/11/98 (15:00) Наклад — 18.190